*Зварот Ю.Захаранкі да работнікаў сілавых структураў (стар. 2)*
*За манеўры заплоцяць салдаты. Здароўем (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

11 кастрычніка 1996 г. № 77 Кошт свабодны

**Мінскі гарвыканкам не дазволіў праводзіць 19 кастрычніка маніфестацыю, а санкцыянаваў толькі мітынг каля Опернага тэатра. Між тым актывісты розных палітычных сілаў маркуюць збірацца менавіта на плошчы Якуба Коласа (10.30—11.00) і ісці адтуль калонаю. Будзем спадзявацца, што ўладам хопіць розуму не перакрываць дарогу дэманстрантам міліцэйскімі кардонамі.**

**Каля ста прадстаўнікоў з Беларусі прымаюць удзел у эканамічным форуме «Польшча — Усход», які праходзіць 11—13 кастрычніка ў Крыніцы Гурскай, што каля Кракава. Беларускую дэлегацыю ўзначальвае віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг. Форум прысвечаны праблемам рэфармавання эканомікі посткамуністычных краінаў.**

**У Мінску адбыўся з'езд Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП). У яго рабоце ўзялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага незалежнага і Свабоднага прафсаюзаў, а таксама прафсаюзы металістаў і транспартнікаў. На з'ездзе быў прыняты Статут БКДП. Прэзідэнтам Кангрэса абраны старшыня Свабоднага прафсаюза Генадзь Быкаў.**

## Траянскія «міратворцы»

*Лукашэнка ідзе ў Вярхоўны Савет, каб паказаць, нібыта яго зноў «падманулі»*

У чацвер, 10 кастрычніка, ў парламенце павінен быў выступіць прэзідэнт. Асноўнай мэтай візіту Лукашэнкі ў Авальную залу (дзе яго «топчут и ноги вытирают») абвешчанае жаданне прэзідэнта нібыта пайсці на кампраміс з Вярхоўным Саветам. «Вы пераносіце дату рэферэндуму на 7 лістапада, а я за гэта ўнясу кардынальныя змены ў свой праект канстытуцыі», — менавіта такую здзелку падрыхтаваў для дэпутатаў прэзідэнт.

Аднак Лукашэнка, напэўна, разумее, што неабходных 100 парламенцкіх галасоў для зацвярджання новай даты яму не атрымаць. Тыя 110 дэпутацкіх подпісаў, што сабраныя «за кампраміс з прэзідэнтам», пры тайным галасаванні, як паказвае гісторыя, перatwараюцца ў 60—70. Тое ж і цяпер — няма ніякіх падставаў меркаваць, што большасць камуністаў, аграрыяў і лібералаў памянялі свае пазіцыі. Рызыкну спрагназаваць, што Вярхоўны Савет не прагаласуе за прызначэнне рэферэндуму на 7 лістапада.

Таму відавочна, што з'яўленне прэзідэнта ў зале пасяджэнняў парламента мае чыста ідэалагічна-прапагандысцкія мэты. Чарговы раз перад тэлекамерамі заявіць беларускаму народу: «Глядзіце — я хацеў кампраміса, але яны зноў мяне падманулі».

*Разышліся...*

Няма сумнення, што пасля негатыўнага рашэння парламента гэты лозунг будзе актыўна выкарыстоўвацца для падрыхтоўкі дзяржаўнага перавароту 19 кастрычніка.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Захад ставіць сур'ёзныя пытанні

**Сёння, 11 кастрычніка, у Мінску з рабочым візітам знаходзіцца статс-сакратар замежных справаў Каралеўства Нідэрланды Мішэль Патэйн. Ён узначальвае дэлегацыю, у склад якой уваходзяць таксама Пасол Нідэрландаў у Польшчы і Беларусі, а таксама афіцыйныя асобы міністэрства замежных справаў Галандыі.**

Візіт мае пераважна палітычны характар. З 1997 г. Нідэрланды будуць старшынстваваць у Еўрапейскім Саюзе, і сп.Патэйн, які ў галандскім МЗС адказвае за пытанні еўрапейскага супрацоўніцтва, дэталёва вывучае сітуацыю ў розных краінах Еўропы. У праграме візіту — сустрэчы з прэзідэнтам А.Лукашэнкам, старшынёй ВС С.Шарэцкім, міністрам замежных справаў У.Сянько і іншымі афіцыйнымі асобамі.

Як паведаміў СВАБОДЗЕ першы сакратар пасольства Каралеўства Нідэрланды ў Варшаве сп.Каспар Вэльдкамп, падчас візіту статс-сакратар М.Патэйн выкажа афіцыйную пазіцыю галандскага ўрада ў дачыненні да палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Урад Нідэрландаў звяртае ўвагу беларускага кіраўніцтва, заначыў сакратар амбасады, што рэферэндум у сённяшніх умовах не можа разглядацца як свабоднае і незалежнае волевыяўленне народа, і факт правядзення плебісцыту без захавання нормаў заканнасці выкліча сур'ёзныя праблемы ва ўзаемаадносінах Беларусі з Захадам і сусветнай супольнасцю. Урад Каралеўства Нідэрланды асабліва падкрэслівае, што канстытуцыя еўрапейскай дзяржавы павінна адпавядаць міжнародным стандартам — гэта значыць прадугледжваць строгі падзел уладаў, незалежнасць Канстытуцыйнага суда і парламента, а таксама гарантаваць свабоду слова. У сувязі з гэтым тэма сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі будзе адной з асноўных падчас перамоваў статс-сакратара М.Патэйна з кіраўнікамі нашай дзяржавы.

Папярэдне ў праграме візіту значылася таксама падпісанне пагаднення аб культурным супрацоўніцтве паміж Каралеўствам Нідэрланды і Рэспублікай Беларусь. Аднак, заначыў сакратар пасольства К.Вэльдкамп, праналізаваўшы сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі, галандскі ўрад вырашыў адкласці падпісанне дакумента.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

ПРЭЦЭДЭНТ

*Што рабіць, калі ігнаруецца закон?*

## Падавайце ў суд!

**Гаворка ідзе аб правах той катэгорыі грамадзянаў, якіх прэзідэнт пазбавіў ільготаў сваімі сумнавядомымі ўказамі. Канстытуцыйны суд, як вядома, прызнаў, што гэтае рашэнне кіраўніка дзяржавы супярэчыць Асноўнаму закону — значыць, яно не мае сілы з моманту выхаду. Аднак чыноўнікі працягваюць ігнараваць заключэнне КС і тым самым упарта працягваюць парушаць законныя правы грамадзянаў.**

**Жыхар горада Смаргоні І.Скварнюк зрабіў вельмі слушна — ён звярнуўся са скаргаю ў суд. Копію судовага рашэння вы бачыце. Суддзя Шэлег вымушаны быў задаволіць скаргу і абавязаў адміністрацыю Смаргонскага жылкамунгаса налічваць грамадзяніну Скварнюку плату за кватэру і камунальныя паслугі ў адпаведнасці з устаноўленымі законам ільготамі. Акрамя таго, жылкамунгас абавязаны скампенсаваць сп.Скварнюку тыя сумы, якія незаконна браліся з яго ў перыяд з 1 верасня 1995 г.**

**Так што ідзіце ў суд.**

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

Р Е Ш Е Н И Е
именем Республики Беларусь

8 августа 1996 года — Судья Сморгонского района и г.Сморгони Гродненской области Шелег Н.А.

при секретаре Родько Д.Б.
рассмотрев в открытом судебном заседании г.Сморгони гражданское дело по жалобе СКВЕРНЮКА Игоря Анатольевича на неправомерные действия органов государственного управления и должностных лиц,ущемляющих прав граждан

У С Т А Н О В И Л:

В жалобе суду Сквернюк И.А. указал,что он является ликвидатором последствий аварии на ЧАЭС и имеет право на льготы,установленные ст. 19 Закона Республики Беларусь от 11 декабря 1991 года "О социальной защите граждан,потерпевших от аварии на Чернобыльской АЭС" в части оплаты жилья и коммунальных услуг,которыми он пользовался до 1 сентября 1995 года,то есть до выхода Указа Президента Республики Беларусь № 349 от 1 сентября 1995 года "Об упорядочении льгот для отдельных категорий граждан". Данный Указ,приостанавливающий действия льгот был признан Заключением Конституционного Суда Республики Беларусь от 26 декабря 1995 года,не имеющим силы с момента выхода. Также Конституционный Суд признал не соответствующим Конституции и законам Республики Беларусь распоряжение Президента от 29 декабря 1995 года № 295 рп"О соблюдении норм и Указов Президента Республики Беларусь"

Однако администрация ПО ЖКХ Сморгонского горисполкома отказывается предоставлять ему льготы по оплате жилья и коммунальных услуг. Сквернюк И.А. просит суд обязать администрацию ПО ЖКХ предоставить ему льготы по оплате жилья и коммунальных услуг,проведя перерасчет с 1 сентября 1995 года.

В суде Сквернюк И.А. основания своей жалобы поддерживал.

Представитель ЖКХ Сморгонского горисполкома основания жалобы не признал.

Проверив материалы дела,нахожу требования Сквернюка И.А. подлежащими удовлетворению.

В соответствии со ст.4 Закона Республики Беларусь"О судоустройстве и статусе судей в Республике Беларусь",если при рассмотрении конкретного дела суд придет к выводу о несоответствии нормативного акта Конституции Республики Беларусь или другому закону,он принимает решение в соответствии с Конституцией либо законом Республики Беларусь...

Поскольку решением Конституционного Суда Республики Беларусь от 26 декабря 1995 года признан несоответствующим Конституции и закону пункт 1 Указа Президента Республики Беларусь от 1 сентября 1995 года № 349 "Об упорядочении некоторых льгот для отдельным категориям граждан", которым в частности,приостанавливалось и действие п.19 Закона Республики Беларусь от 11 декабря 1991 года " О социальной защите граждан,потерпевших от аварии на Чернобыльской АЭС", то в данном случае следует считать,что действует закон,предоставляющий ликвидаторам последствий аварии на Чернобыльской АЭС льготы по оплате жилья и коммунальных услуг. Так как предоставление льгот прекращено с 1 сентября 1995 года,а Указ Президента № 349 признан не имеющим юридической силы с момента издания,то считаю,что требования Сквернюка И.А. обоснованы и подлежат удовлетворению.

Руководствуясь ст.ст.191-194,227-7 ГПК Республики Беларусь,суд

Р Е Ш И Л:

Признать жалобу Сквернюка Игоря Анатольевича обоснованной.

Обязать администрацию производственного объединения жилищно-коммунального хозяйства Сморгонского горисполкома начислять квартплату и плату за коммунальные услуги в соответствии с пунктом 19 Закона Республики Беларусь от 11 декабря 1991 года "О социальной защите граждан,потерпевших от аварии на Чернобыльской АЭС"(в лице директора Стурлиса Б.Ф.).

Произвести перерасчет взимаемой квартирной платы и коммунальных услуг Сквернюку И.А. с 1 сентября 1995 года,исходя из требований п.19 Закона Республики Беларусь от 11 декабря 1991 года"О социальной защите граждан,потерпевших от аварии на Чернобыльской АЭС".

Решение может быть обжаловано в Гродненский облсуд через суд Сморгонского района и г.Сморгони в 10-дневный срок.

Судья: подпись

Копия верна:
Председатель суда
Сморгонского р-на
и г.Сморгони — Н.А.Шелег

## Вынікі рэферэндуму 7 лістапада не будуць прызнаныя Цэнтральнай выбарчай камісіяй

**Пра гэта на прэс-канферэнцыі 9 кастрычніка афіцыйна заявіў старшыня ЦВК Віктар Ганчар.**

Ён лічыць, што ў сённяшніх умовах праводзіць рэферэндум *«немагчыма нават 24 лістапада, бо нельга гарантаваць захаванне дэмакратычнасці і законнасці працэдуры, чаго адназначна патрабуе заканадаўства»*. Менавіта таму члены ЦВК 10 кастрычніка звярнуліся ў Вярхоўны Савет з прапановай аб пераносе даты правядзення плебісцыту на больш позні тэрміны. *«Калі парламент на сесіі не адменіць сваю пастанову аб правядзенні рэферэндуму 24 лістапада альбо па прапанове прэзідэнта пераносе яго на 7 лістапада, то ЦВК не стане прызнаваць вынікі галасавання»*, — заявіў В.Ганчар.

У кожным выпадку, лічыць старшыня ЦВК, парушальнікі закона павінны несці адказнасць. У прыватнасці, ён адзначыў, што 3 кастрычніка Пракуратура зрабіла другое папярэджанне ў адносінах да міністра фінансаў Паўла Дзіка, які *«неабгрунтавана не пералічваў грошы на рахунак ЦВК для правядзення рэферэндуму»*. Дарэчы, як стала вядома, Пракуратура, выкарыстаўшы ўсе магчымасці папярэджальных уздзеянняў на міністра Дзіка, накіравала дакументы ў Маскоўскі раённы суд г.Мінска.

Тым часам, са словаў Ганчара, мінфін па распараджэнні Лукашэнкі незаконна пералічыў 3 млрд. 300 млн. рублёў на рахункі абласных фінансавых упраўленняў. Гэтых сродкаў якраз хопіць, на думку старшыні ЦВК, каб надрукаваць бланкі для рэферэндуму. *«Калі сапраўды стане вядома, што грошы будуць скарыстаныя на мэты, непрадугледжаныя Цэнтральнай выбарчай камісіяй, то гэта можна кваліфікаваць як падлог і крымінальнае злачынства»*, — заявіў Ганчар. Ён таксама адзначыў, што *«ў парушэнне заканадаўства створаныя тэрытарыяльныя і ўчастковыя камісіі па правядзенні рэферэндуму»*.

Разам з тым Віктар Ганчар канстатаваў, што адбылося пэўнае зрушэнне ў правядзенні выбараў у Вярхоўны Савет. Адзіная праблема, якая можа сарваць іх — гэта адсутнасць сродкаў. Аднак атрымаць грошы будзе не так проста. Бо, паводле інфармацыі, якую Ганчар атрымаў ад высокага чыноўніка з мінфіна, без загаду прэзідэнта грошы на правядзенне рэферэндуму выдаткавацца не будуць.

Між тым, па інфармацыі ЦВК, ужо зарэгістравана 48 ініцыятыўных груп па зборы подпісаў для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. У тым ліку ў г.Мінску — 40 груп, у Віцебскай вобласці — 3, Гомельскай — 2, Мінскай — 2, Брэсцкай — 1, а вось па Магілёўскай і Гродзенскай абласцях не зарэгістравана пакуль ніводнай ініцыятыўнай групы. Але, як адзначыў старшыня ЦВК, і там таксама намеціліся пэўныя зрухі.

Актыўна ідзе і вылучэнне кандыдатаў ад вядучых палітычных партый. У прыватнасці, ад ПКБ вылучана 48 кандыдатаў, ад аграрнай — 20, ад Партыі працы і справядлівасці — 20, ад жаночай партыі «Надзея» — 5, ад партыі здароўя саэнсу — 5, хрысціянска-дэмакратычная партыя вылучыла 2 чалавекі. Акрамя таго, калі выбары адбудуцца асобна ад рэферэндуму, у выбарчай кампаніі возьме ўдзел БНФ.

Напрыканцы Віктар Ганчар заявіў журналістам, што *«ў выпадку распаўсюджвання прэзідэнтам Лукашэнкам паклёпу ў мой адрас, я буду вымушаны абараняць свой гонар і годнасць у судзе»*.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Обращение

## *к руководителям и сотрудникам служб, органов, подразделений внутренних войск, Комитета государственной безопасности, Министерства обороны, других силовых ведомств и структур Республики Беларусь*

Уважаемые офицеры, прапорщики и рядовые!

Обратиться к вам вынуждают меня те тревожные события, которые будоражат Беларусь последние два года. Не стану давать политических оценок действиям представителей исполнительной власти. Я хочу только как офицер и гражданин осветить их с позиций права и принципа всеобщего равенства перед Законом. Конституционным Судом Республики Беларусь уже дана правовая оценка отдельным действиям гражданина Лукашенко, находящегося в должности президента. Эта оценка настолько серьезна, что исполнительной власти приходится принимать чрезвычайные меры. Намеченный президентом референдум — это попытка уйти от ответственности, скрыть деяния президентской команды, прямо или косвенно подпадающие под действие Уголовного кодекса Республики Беларусь. Вспомните лишь некоторые эпизоды — избиение народных депутатов, репрессии против независимой прессы и работников минского метро, расправы над участниками мирных санкционированных демонстраций, фактическое участие в крупных экономических преступлениях, нанесших огромный ущерб нашему государству. Ситуация в стране накалилась до такой степени, что Лукашенко и его команда готовы к самым безрассудным действиям. У этой команды нет пути к отступлению. Эти люди перешли черту, за которой — только новые преступления. Человек, присягнувший на Конституции Республики Беларусь, цинично и грубо нарушил ее.

Политики приходят и уходят, а Закон остается. А вы стоите на страже Закона. И служите НАРОДУ, а не отдельным политикам. И когда какие-то группировки пытаются, используя вас в своих интересах, втягивать милицию и армию в свои преступные игры, вы должны помнить о долге и не поддаваться на провокации. За всякое преступление, а тем более за преступление против народа, рано или поздно придется ответить каждому, кто преступил Закон. Сегодня на улицы выходят не бандиты и не наемники западных спецслужб, как это утверждает официальная пропаганда. Лучшие люди нашей страны, те, кто не утратил честь и совесть, отчаянно пытаются остановить наступление диктатуры. Это ваши братья и сестры, ваши отцы и матери. Не поднимайте на них руку. Не становитесь соучастниками преступных деяний высокопоставленных авантюристов.

Диктатура еще никому не принесла счастья и процветания. Ее конец всегда один: исторический тупик, Нюрнберг.

Я обращаюсь к вам, сотрудники всех подразделений специального назначения. Политические авантюристы, готовые ради удержания власти пойти на все, именно на вас сделают главную ставку. Не дайте подставить себя. Не поддавайтесь на провокации безрассудных политиков, свои шкурные интересы поставивших выше страны и народа. Помните, что вы — защитники народа. На вас с надеждой и верой смотрит страна. Истинного офицера и солдата всегда отличают честь и совесть. ЗАЩИТНИК НАРОДА НЕ МОЖЕТ СТАТЬ ЕГО ПАЛАЧОМ.

Я верю вам, надеюсь на вас и желаю вам успехов в вашей нелегкой службе и счастья вашим семьям. Я верю, что все мы будем жить в свободном, процветающем правовом государстве. Иного нам не дано.

**Юрий ЗАХАРЕНКО,**
*экс-министр внутренних дел Республики Беларусь.*

## Грошы ідуць. Іван Ціцянкоў задаволены

**Інтэнсіўна ідзе працэс добраахвотнага пералічэння грошай на прэзідэнцкі рэферэндум у Магілёўскай вобласці.**

За апошнія два тыдні больш як сто установаў і прадпрыемстваў "падзяліліся" з бюджэтам сваімі грашыма. Працэсам збору сродкаў вельмі задаволены Іван Ціцянкоў, які нядаўна прыязджаў у Бабруйск і на сустрэчы з прадстаўнікамі вертыкалі паведаміў, што ўжо сабрана больш за 5 мільярдаў рублёў.

Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ, вертыкаль атрымала разнарадку, калькі павінна аддаць на рэферэндум кожнае прадпрыемства. У спісе значацца і фабрыкі, і паліклінікі. Калі спатрэбіцца, у працэс спагнання грошай уключыцца падатковая інспекцыя ды іншыя кантрольныя службы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Восень становіцца гарачай

**Хваля страйкаў ізноў можа ахапіць Магілёў.**

Так лічыць старшыня Магілёўскай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў Сяргей Абадоўскі. Звязана гэта з тым, што запазычанасці па выплаце заробкаў сталі хранічнымі і ў той жа Магілёўскай вобласці перавышаюць 30 мільярдаў рублёў. На Магілёўскім аўтазаводзе яшчэ не ўсе атрымалі заробак за ліпень, а на заводзе «Зеніт» — двухмесячная запазычанасць па зарплаце. Прычым на тым жа «Зеніце» адміністрацыя не бачыць іншай магчымасці выплаціць грошы, як толькі з дапамогай крэдыту. Але, па словах дырэктара прадпрыемства В.Асіпенкі, яшчэ адзін крэдыт канчаткова прывядзе завод да банкруцтва. Рабочыя збіраюцца распачаць акцыі пратэсту з сярэдзіны кастрычніка — спачатку гэта будуць папераджальныя пікеты, потым страйкі, а ў што гэта можа выліцца потым — пакуль не ведае ніхто.

**Іван ЗАСАДА**

## У Магілёве адчыніўся Польскі дом

**Яго будавалі на сродкі грамадскай арганізацыі «Польская садружнасць».**

Дом мае выконваць ролю культурна-асветнага цэнтра. Там размясціліся бібліятэка, кіназала, кавярня з нацыянальнай кухняй. Як спадзяецца кіраўнік мясцовага аддзела Саюза палякаў Юры Жаравовіч, новая ўстанова дапаможа наладзіць жыццё польскай грамады ў Магілёве і палепшыць кантакты з «гістарычнай радзімай».

Будавалі Дом дзве прыватныя польскія фірмы. Яны адрэстаўравалі будынак XIX стагоддзя, які быў прызначаны на знос.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Абеды для бедных

**Дваццаць бедных гродзенцаў пачала бясплатна карміць адміністрацыя Ленінскага раёна горада Гродна.**

На кожнага штодзень вызяляецца 10 тысяч рублёў. Яшчэ дваццаць чалавек, якія не могуць самі наведваць кавярню, будуць атрымліваць абеды дома. На харчаванне гэтых асобаў выдзелена 5 мільёнаў рублёў у кастрычніку. Якраз перад рэферэндумам?

**Б.Б.**

## Далей на ўсход — злачынцаў больш

**Магілёўская вобласць займае першае месца ў Беларусі па ўзроўні злачыннасці.**

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі новы начальнік абласной міліцыі палкоўнік Віталь Апанасевіч. Асноўнай прычынай такога стану рэчаў ён назваў блізкасць празрыстай расійскай мяжы, бо ў Расіі ўзровень злачыннасці яшчэ вышэйшы. Другім крымінагенным фактарам палкоўнік Апанасевіч лічыць перанасычанасць вобласці папраўча-працоўнымі калоніямі.

**Іван ЗАСАДА**



# Гульня ў адны вароты

## *Бясплатна агітаваць ахвотных няшмат*

Вертыкаль сёння моцна занятая растлумачэннем шырокім масам працоўных праекта лукашэнкаўскай канстытуцыі. Для гэтага прыцягнутыя «лепшыя сілы». У Гродзенскім аблвыканкаме створаная, як і належыць, лектарская група з 20 чалавек. У ёй некалькі старых савецкіх прапагандыстаў і яшчэ сёй-той. Лектарскія шэрагі можна было б і павялічыць, але афіцыйна агітатарам нельга выплочваць грошы — няхай працуюць «на грамадскіх пачатках». Начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку аблвыканкама У.Амелька гаворыць, што ніхто сёння не хоча працаваць бясплатна і за адну лекцыю патрабуюць 100 тысяч рублёў.

Галоўная праблема ў тым, што праект канстытуцыі Лукашэнкі надрукаваны суцэльным тэкстам, прапанаваных змены ніяк не выдзелены. Не кожны зразумее, што ж новага ўносіцца ў асноўны закон, гаворыць У.Амелька. Такім чынам, людзям прапанавалі ўхваліць прэзідэнцкі праект, лішне не ўдумваючыся ў ягоны змест. А мясцовыя СМІ нібыта наладзілі «ўсенароднае» абмеркаванне. Рэдакцыі атрымалі пры гэтым канкрэтныя заданні. Напрыклад, гродзенскай раённай газеце «Параіл» на пяць старонках водгукаў друкаваць толькі адзін адмоўны. А шматтыражцы аб'яднання «Азот» (якое нядаўна наведваў А.Лукашэнка) пастаўленая задача не друкаваць аніводнай адмоўнай думкі! Ну, проста як у сталінскія часы.

Пры ўсім гэтым вертыкаль незадаволена, як ідзе гэтае «абмеркаванне» ў газетах вобласці. *«Мы чакалі большага»,* — прызнаецца У.Амелька. Але ў рэдакцыях скардзяцца, што цяжка знайсці людзей, якія маглі б растлумачыць прэзідэнцкія заданні «з веданнем справы». Цікава, што вертыкальшчыкі павінны былі 5 кастрычніка адаслаць у сталіцу апошнія заўвагі працоўных да праекта прэзідэнцкай канстытуцыі. Тым часам абмеркаванне ў мясцовых СМІ толькі набірае сілу, і ніхто не думае яго спыняць, хоць усё гэта — кату пад хвост.

Заўвагі і прапановы, вядома, збіраюцца толькі да прэзідэнцкага праекта. На парламенцкі праект, тлумачаць чыноўнікі, заўваг ім ніхто не дасылае. Да і дзіўна было б, каб прысылалі. Бо ўсе прапановы здаюцца ў прэзідэнцкую адміністрацыю, якую зусім не цікавіць парламенцкі праект, у якім няма пасады прэзідэнта. З усяго вынікае, што ВС сам павінен быў арганізаваць не менш усенароднае абмеркаванне свайго праекта. Сп.Амелька, аднак, сцвярджае, што большасць людзей прызвычаілася да існавання інстытута прэзідэнцтва і адмоўна ставіцца да ідэі скасаваць яго.

Відавочна, што з абмеркаванне двух новых праектаў канстытуцыі гульня ідзе ў адныя вароты. Па словах намесніка начальніка аддзела арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкама М.Прысады, органы ўлады ўцягнутыя сёння ў палітычную барацьбу і сацыяльна-эканамічныя пытанні для іх адышлі на другі план. Як тыповы вертыкальшчык, ён незадаволены тым, што у нас «двухгаловая ўлада». Маўляў, ВС мае замнога функцый.

Вертыкаль сёння вядзе татальную прапрэзідэнцкую прапаганду, але ўсё гэта ў рамках закона, сцвярджае чыноўнік, бо ніхто не забараняе ВС праводзіць агітацыю на сваю карысць. Якім чынам? Не маючы доступу да сродкаў масавай інфармацыі! Вертыкальшчыкі, як бачым, — народ такі ж цынічны, як і іхні сталінскі галава. Сп. Прысада прызнае, што грошы на гэтую прапаганду ніхто не лічыць, бо ідзе адкрытая палітычная барацьба. Але ж грошы гэтыя — агульнанародныя! Ён таксама гаворыць, што калі яго прымусяць праводзіць рэферэндум 7 лістапада, што антызаконна, дык ён падначаліцца. Па ягоных словах, несці адказнасць будзе «дакумент», які парушыць Закон, а не ён — М.Прысада, які *«усяго толькі выканаўца»* і *«заложнік»* палітычнай сітуацыі. У каментарыях няма патрэбы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**АКЦЫІ**

## Падманутыя ўкладчыкі падазраюць Мясніковіча, але прэзідэнту вераць

**У мінулую сераду каля будынка адміністрацыі прэзідэнта мітынгавалі падманутыя ўкладчыкі.**

**Сабралася чалавек сто (пераважна пенсійнага ўзросту). Удзельнікі акцыі паводзілі сябе досыць агрэсіўна. З іх выказванняў можна было зразумець, што яны не губляюць надзею вярнуць страчаныя грошы. Але ўсё, на іх думку, залежыць ад Лукашэнкі, які абяцаў выдаць ільготны 10-мільярдны крэдыт таварыству падманутых укладчыкаў. Адпаведны ўказ нібыта ўжо падпісаны, аднак ўкладчыкі лічаць, што нехта тармозіць справу. У гэтым яны абвінавачваюць, у прыватнасці, шэфа адміністрацыі М.Мясніковіча. А прэзідэнт, маўляў, «за нас».**

***На здымку:* *Мітынг праходзіў пад такім вось мастацкім аздабленнем.***

СВАБОДА
11 кастрычніка 1996 г., № 77

# За манеўры заплоцяць салдаты. Здароўем

**У міністэрстве абароны ўжо падлічваюць, колькі грошай будуць каштаваць буйнамаштабныя вайсковыя вучэнні ў чарнобыльскай зоне, якія загадаў правесці прэзідэнт Лукашэнка.**

План вучэнняў распрацаваны штабістамі міністэрства абароны і трымаецца ў сакрэце нават ад экспертаў па чарнобыльскіх праблемах. Між тым навукоўцы і спецыялісты выступаюць супраць выкарыстання чарнобыльскай зоны ў якасці ваеннага палігона.

Нагадаем, што згодна з прэзідэнцкай ідэяй у зоне плануецца спаліць ці разбурыць каля 6 тысяч пабудоваў. Вучоныя лічаць, што на пажарышчах узровень радыяцыі можа перавысіць дапушчальную норму ў тысячу разоў. Радыёактыўны пыл разнясецца на адлегласць да 40 кіламетраў і трапіць, у тым ліку, на тэрыторыю Украіны і Расіі. Але найбольш пацерпяць непасрэдныя ўдзельнікі манеўраў — салдаты і афіцэры інжынерных, а таксама ўнутраных войскаў. Атрымаюць сваё і міліцыянты, якія будуць перакрываць дарогі падчас знішчальных аперацый вайскоўцаў.

Нягледзячы на негатыўнае стаўленне вучоных да прэзідэнцкай ідэі «маланкавага» рашэння чарнобыльскай праблемы, падрыхтоўка да вучэнняў ідзе поўным ходам. Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ першы намеснік дзяржсакратара Савета бяспекі Іван Юркін, *«вучэнні пройдуць у снежні—студзені альбо бліжэй да вясны»*. (Відаць, у Савеце бяспекі спадзяюцца, што снег знішчыць радыёнукліды.) Іван Юркін ніяк не пракаментаваў пазіцыю вучоных, адзначыўшы, што да справы падключаны міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Аднак у гэтае міністэрства, як сказаў адзін яго высокапастаўлены чыноўнік, ніхто не звяртаўся наконт экспертызы. Іван Юркін падкрэсліў: *«Сёння нельга сказаць, што вучэнні абавязкова адбудуцца, але яны распрацоўваюцца»*. Першы намеснік дзяржсакратара Савета бяспекі параіў патэлефанаваць па гэтым пытанні *«пасля рэферэндуму»*...

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*Адзін з пастоў на ўездзе ў чарнобыльскую зону.*

## *Меркаванне спецыяліста*

Когда я узнал о намерении провести в чернобыльской зоне отселения крупномасштабные военные учения, то не мог поверить этому. Только у абсолютного дилетанта и безответственного человека могла возникнуть такая идея. Ведь мы уже имеем достаточно печальный опыт «дезактивации» загрязненных территорий, «рационального» использования радиоактивных продуктов питания и других подобных авантюр. В течение пяти с лишним лет под видом дезактивации были перевернуты миллионы кубометров загрязненной земли, пыль от которой поднималась на километры вверх и разносилась ветром на десятки и сотни километров. При этом совершенно игнорировался тот факт, что белорусские земли заражены не только цезием-137 и стронцием-90, а и еще 11 долгоживущими радионуклидами. Многие из них не только радиационно опасны, но и являются химическими ядами (плутоний-239, серебро-110 и т.д.).

А сколько вреда было нанесено выращиванием и реализацией радиоактивной продукции. По данным Минсельхозпрода, с момента Чернобыльской катастрофы было произведено почти 900 тыс. тонн загрязненного зерна. Все оно было переработано на комбикорм и скормлено скоту, свиньям и птице, в том числе и в «чистых» зонах. То же самое случилось с загрязненным молоком. Было надоено 1 млн. 320 тыс. тонн радиоактивного молока. Все оно было переработано на масло, а обрат скормлен скоту (причем — по всей Беларуси). Аналогичным образом было использовано, по моим расчетам, около 52 тыс. тонн загрязненных радионуклидами костей, около 150 тыс. тонн хвойной и травяной муки и других кормов. Все это привело к тому, что общая площадь загрязненных цезием-137 земель не уменьшилась, а возросла в сравнении с 1987 годом на 68 тыс. гектаров. В Минской области увеличение составило 37,7 тыс. га, а в Гродненской — около 30,5 тыс. гектаров.

Поэтому не случайно появление практически непригодного в пищу мяса крупного рогатого скота в районах, считавшихся официально «чистыми». Например, в образцах мяса скота, выращенного в Сморгонском районе, содержалось от 0,33 до 0,44 мг/кг сухого вещества стронция-90 и нет уверенности, что этого не было в других местах, т.к. стронций был развезен с кормами на свинокомплексы и птицефабрики, а оттуда с навозом на поля. Через травянистые корма он попал в мясо. А дальше прямая дорога в организм человека. Вот она, цена головотяпства.

Но вместо того, чтобы сделать выводы из прежних ошибок, чиновники устраивают сейчас новый опасный эксперимент — военные учения в зоне. Тем, кто предлагает опять послать людей глотать радиоактивную пыль, нужно было бы посмотреть, чем кончилась служба в полках Гражданской обороны для более 300 тыс. молодых мужчин. Несмотря на преднамеренное сокрытие истины, можно установить хотя бы приближенно, сколько ликвидаторов уже ушло из жизни по болезням, сколько из них стали инвалидами в расцвете лет, сколько человек больны безнадежно, сколько родилось неполноценных детей и сколько еще родится не только от этого поколения ликвидаторов, но и их детей. Я как биолог не сомневаюсь, что ответы будут страшными. Так спрашивается, кто выдвинул новую преступную идею? Разве мало потерпел белорусский народ от таких «идеологов»? Кстати, они и сейчас на свободе, даже занимают почетные должности, хотя их истинное место совсем другое.

**Иван НИКИТЧЕНКО,**
***доктор с.-х.наук, профессор, член-корреспондент АН Беларуси, академик Международной академии информатики и информационных процессов, научный руководитель программы ликвидации последствий аварии на ЧАЭС в 1986-1991 годах.***

## Клуб беларускіх інтэлектуалаў

**Элітарная Міжнародная арганізацыя інтэлектуалаў *MENSA* адчыняе ў Беларусі сваю філію.**

Такое рашэнне кіраўніцтва *MENSA* прыняло пасля таго, як у Мінску было праведзенае спецыяльнае тэставанне на ўзровень інтэлекту. Па словах выканаўчага дырэктара *MENSA* Эдварда Вінсента, ні ў якай іншай краіне такіх высокіх вынікаў не было. 46% беларускіх удзельнікаў паказалі найвышэйшы ўзровень інтэлекту, у той час як у іншых краінах аналагічны паказчык звычайна складаў 15—20%. Такім чынам, Беларусь стане 25-й краінай у свеце і першай у СНД, дзе адчыніцца філія *MENSA*. Арганізацыя інтэлектуалаў налічвае сёння больш за 110 тысяч сяброў з больш як 100 дзяржаваў.

Цікава адзначыць, што ў беларускую інтэлектуальную эліту ўвайшоў і самы малады ўдзельнік тэстаў — 13-гадовы вучань 103-й мінскай гімназіі Яўген Чахлоў. У парадку выключэння яго дапусцілі да тэставання, хоць, паводле правілаў, удзельнічаць у ім можна з пятнаццаці год. Усяго ж у першым туры свае здольнасці паказалі больш за 400 чалавек самага рознага ўзросту. Цяпер, як паведаміла афіцыйны прадстаўнік *MENSA* ў Беларусі Ірына Валчанок, ідзе падрыхтоўка да наступнага тэставання. «Мы гатовыя правесці яго не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах, — сказала сп-ня.Валчанок. — З прапановамі можна звяртацца на кантактны тэлефон *MENSA* ў Мінску — 255-42-65».

**Наталля ВАЛАКІДА**

## *ФАКТ ЁСЦЬ ФАКТ*

**Гэты дакумент, які мы сёння публікуем, дае магчымасць нашым чытачам зазірнуць на кухню, дзе гатуюць страву пад назвай «рэферэндум». Кожны дзень на стол галоўнаму кухару кладуцца дзесяткі рэцэптаў. Гэтая «Докладная записка» належыць пяру міністра сувязі В.Ганчарэнкі. Калі меркаваць па тэксту, то чалавек ён не вельмі пісьменны, але парады дае разумныя — сам шэф-кухар гэта прызнаў, наклаўшы адпаведную рэзалюцыю. Адзінае, у чым не арыентуецца былы начальнік Магілёўскага абласнога вузла сувязі — гэта ў сіле футбола.**

**Пазнаёмцеся з гэтымі шэдэўрамі — і вы лепш зразумееце тое, што творыцца сёння на «кухні», якая знаходзіцца на вуліцы Карла Маркса, 38.**

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

Докладная записка

Уважаемый Александр Григорьевич!

Довожу до Вашего сведения, что при встрече 24.09.96г. с руководителями предприятий и активом Фрунзенского района г.Минска было поднято ряд существенных вопросов:

1. Те предприятия, которые посещает Президент, как правило, получают льготу. В частности, тракторный завод, работают 2 дня в неделю, зарплата 2 млн. руб., а предприятия Фрунзенского района работают полную рабочую неделю, зарплата 1.5 млн. руб.

2. Преостановить до Референдума проверки предприятий.

3. Убыточным предприятиям хотя бы частично выплачивать премиальные руководству, ИТР и др.

4. До 19.10.96. в каждом районе ответственным работникам администрации Президента, Кабинета Министров, другим специалистам провести встречи с директорами предприятий, выслушать их вопросы, предложения, по возможности ответить, а Вам встретиться с директорским корпусом города Минска после 19.11.96. Вопрос по проведению митинга с Вашим участием почти единогласно директора отклонили, мотивируя тем, что результативнее будут встречи в районах и с Вами.

Для более успешного проведения Референдума считаю необходимым, Александр Григорьевич, довести до Вашего сведения следующие предложения:

а) обнародовать в средствах массовой информации результаты проверок по строительству коттеджей и полученным беспроцентным кредитам;

б) 15.10.96г. не принимать Вам лично участие в футболе, а может быть только открыть игру; не присутствовать на рок-концерте;

в) лучше всего вопросы Референдума смогут довести учителя, почтальоны, также прислушивается население к словам ученых. Сейчас уже не так эффектно воспринимаются выступления ветеранов, руководителей и др., поэтому я предлагаю 4.10.96г. провести общегородское собрание учителей г.Минска и Вам принять участие, выступить с кратким докладом, поздравить, вручить сувениры. Предварительно Минобразованию, облоно, администрациям районов провести встречи в каждом районе г.Минска и избрать лучших. Также я предлагаю провести День учителя в областных центрах с участием учителей с райцентров;

г) рассмотреть вопрос и может быть хотя бы частично увеличить зарплату учителям, работникам дошкольных учебных заведений.

С уважением, В. Гончаренко В.И.Гончаренко

25.IX.96г

Президент
Республики Беларусь

М.Н.ЧИГИРЮ
М.В.МЯСНИКОВИЧУ
Н.Ф.ДОМАШКЕВИЧУ

С ПРЕДЛОЖЕНИЯМИ
В.И.ГОНЧАРЕНКО СОГЛАСЕН
(КРОМЕ ФУТБОЛА).

ПРИМИТЕ СООТВЕТСТВУЮЩИЕ
МЕРЫ ПО РЕАЛИЗАЦИИ
ПРЕДЛОЖЕНИЯ.

ИСПОЛНЕНИЕ ДОЛОЖИТЕ
ДО 15.10.96 Г.

А.Лукашенко

"26" СЕНТЯБРЯ 1996 ГОДА
№ 12/801-27

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь
Мінск, Дом Урада

1. В.И.Стражеву
В.П.Андрейченко
А.И.Дубко
В.В.Ермошину
В.А.Заломаю
А.Н.Куличкову
П.П.Пётуху
П.В.Шипуку

Прошу срочно организовать выполнение поручений Президента Республики Беларусь, изложенных в данной записке.
Об исполнении доложите Кабинету Министров до 11.10.96

2. Министрам, руководителям других центральных органов управления

Активизировать работу по подготовке к республиканскому референдуму и разрешению наиболее острых проблем в трудовых коллективах и по месту жительства населения.

Заместителям Премьер-министра Республики Беларусь.

М.Чигирь

27 сентября 1996 г.
№ 09/102-450

## *ЗЕМЛЯ*

# Остались выгон и погост

***Вопреки опасению наших министров, белорусскую землю за пределы страны еще не вывозят, но некоторые деревни уже остались без сельхозугодий***

И виноваты в этом не происки агентов мирового капитала, а белорусское земельное законодательство и практика щедрого наделения землей дачных кооперативов, жертвами которых стали пригородные сельские поселения, расположенные вдоль шоссейных и железнодорожных магистралей. Типичной в этом отношении является деревня Подыгрушье, расположенная в 30 км от Минска, неподалеку от Смолевич. Вдобавок, рядом с ней проходит Белорусская ж/д, а в незначительном отдалении — Московская автомагистраль.

В силу этих обстоятельств судьба деревни, в соответствии с советскими реалиями именуемая еще и как бригада № 4 колхоза «Ленинский путь», была предрешена. Правда, первому кооперативу 15 лет назад действительно отдали «неудобицы», и новым земледельцам пришлось облагораживать территорию в основном за счет собственных усилий и вручную. Второй дачный кооператив готовил площадку уже с использованием казенной техники, а все последующие получали лучшие земли. И могло ли быть иначе, если глаз на них положили «силовики»: в 1988 году — КГБ и МВД, а позднее и министерство обороны.

Естественно, что помимо организованного застройщика в дележке солидное участие приняли и частные лица, земли которыми выделялись в индивидуальном порядке (на условиях, о которых можно только догадываться).

Но в данном случае нас интересуют не столько намерения и обстоятельства, сколько результаты. А они таковы: социально справедливое распределение оставило на деревню из 60 дворов какую-то сотню гектаров мелиорированных торфяников. Но судя по всему — и это не предел. Уже после обнародования президентских планов по выявлению отношения народа к «бесконтрольной» продаже земли на этих торфяниках разместили еще один кооператив числом в 300 участков.

Ситуация все больше напоминает карикатуру из школьного учебника истории, иллюстрировавшую безземельное освобождение крестьян в прошлом веке. Похоже, что и нынешние реформаторы отличаются не меньшей крутизной. Если судить по нашей отдельно взятой деревне, то сельчанам для приватизации останутся лишь выгон да погост.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

## Субота 19 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 Новости.
8.15 «Созвучие».
8.35 Здоровье.
9.05 Уроки Н.Новожиловой.
9.35 Все про все.
10.00 1 Всебелорусское народное собрание. Торжественное заседание.
14.00 Многоголосие.
14.35 Коллаж.
15.05 «История любви».
15.30 1 Всебелорусское народное собрание. Праздничный концерт.
17.30 «Крок».
17.45 Белорусский дом.
18.20 Галерея.
18.55 «Люди на болоте». Х/ф. С. 1.
20.05 Банка комиксов.
20.40 Колыбельная.
21.00 Новости.
21.45 Музыкальный антракт.
22.00 Х/ф "Завещание профессора Доуэля».
23.35 Видимо-невидимо.
0.35 Темная комната.

**ОРТ**
7.00 «Обыкновенное чудо». Х/ф. С. 1.
8.15 «Кошкин дом». Мультфильм.
8.45 Домашняя библиотека.
9.00 Новости.
9.10 Слово пастыря.
9.30 Не зевай!
10.00 Утренняя почта.
10.35 Смак.
10.55 Возвращение Третьяковки.
11.25 Фильм «Посол Советского Союза».
13.00 «Король рояля — Эмиль Гилельс».
13.30 Очевидное-невероятное.
14.00 Новости .
14.20 «Возвращение на Остров сокровищ».
15.15 В мире животных.
15.55 Чемпионат России по футболу.
18.00 Х/ф «Трактир на Пятницкой».
19.45 «Спокойной ночи, малыши!»
20.00 Время.
20.50 «Вьетнам. До востребования».
21.50 «Каламбур».
22.20 Х/ф «Аккомпаниаторша».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.30 Мультфильмы.
8.00 «Мак и Матли».
8.30 По вашим письмам.
9.00 Экспортлес.
9.15 Парламентская неделя.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Книжная лавка.
10.30 Доброе утро.
11.00 «Врача вызывали?»
11.25 Анонимные собеседники.
11.55 «Поэт в России — больше, чем поэт».
12.25 Проще простого.
13.00, 19.00, 0.05 Вести.
13.20 «Тайна Сахары». С. 3.
14.15 Ничего, кроме...
14.30 Де факто.
15.00 Сад культуры.
15.30 Мультфильмы.
16.05 «Юнона» и «Авось». Фильм-спект.
17.30 Своя игра.
18.00 «Королева Марго». С. 12.
19.35 Субботний вечер в стиле джаз.
20.55 Погода на завтра.
21.00 Совершенно секретно.
21.55 «Общество мертвых поэтов». Х/ф.
0.20 Программа «А».

**Санкт-Петербург**
9.25 По реке плывет топор.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Информ ТВ.
10.10 «Честь имею».
10.35 Роман с героем.
11.00 Мультфильм.
11.10 Ток-шоу «Наобум».
11.40 Страсти-мордасти.
12.15 «Петр Первый». Х/ф..С. 1.
14.10 Еще одна Россия.
14.25 Театральная провинция?
14.50 «Лицей, 19 октября». Д/ф.
15.10 Спортивное обозрение.
15.25 Парадоксы истории.
16.10 «Сокровища княгини». Телеспект.
16.35 Детское ТВ: Семь пятниц на неделе.
16.50 От и до...
17.05 Ржавые провода.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Большой фестиваль.
19.25 Футбол. Чемпионат России.
20.55 Светская хроника.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 Круговорот.
21.55 Уик-энд с детективом.
22.15 «Парад парадов».
22.55 «Софья Ковалевская». С. 2.

**IV канал, НТВ**
7.00 Х/ф «Чудесные годы».
7.50 «Любовные узы-6», «Утраченное превосходство».
8.40 Латиномания.
9.00, 13.00 Сегодня.
9.15 Х/ф «Здравствуй, это я».
11.25 Д/ф «Голливуд изнутри».
12.15 Доктор Угол.
12.35 Русский альбом. Группа «Бригада С».
13.15 Мини-сериал «Современный граф Монте-Кристо».
14.20 Искренне ваш.
14.50 Шаг из круга.
15.10 «Откровения балетмейстера Федора Лопухова». Д/ф.
16.05 Новости кино.
16.25 Ток-шоу «Карьера».
17.00 «Горец».
17.30 Дог-шоу «Я и моя собака».
18.00, 21.00 Сегодня.
18.30 «Криминальная Россия: современные хроники». Д/ф.
19.00 Мини-сериал «Современный граф Монте-Кристо» .
20.00 Намедни.
20.45 Куклы.
21.35 Фильм «Удастся ли нашим героям разыскать друга, который таинственно исчез в Африке».
23.45 Третий глаз.
0.30 Ночной канал.«Плейбой».

## Нядзеля 20 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 «Фокусник». Т/ф.
8.30 «Конон».
8.55 «Телебом».
9.40 «Все дело в шляпе».
10.10 Вершина мира.
10.35 «Все нормально, мама!»
11.05 Туробъектив.
11.25 Арсенал.
11.55 Международный курьер.
12.25 Мир природы и увлечений.
12.50 Студия «Окно».
13.45 Сельчане.
14.15 Мост.
14.40 «Война в воздухе».
15.10 Вершина мира.
15.30 Бездельник.
16.00 Гандбол. Кубок чемпионов. Мужчины. СКА (Минск) — «Линц» (Австрия).
17.25 «Бенефис».
18.25 «Люди на болоте». С. 2.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Спортивный телекурьер.
21.10 Новости-ТВ.
21.25 Ток-шоу «Карамболь».
22.00 Х/ф «Смерть неаполитанского математика» (Италия).
23.45 Бархатный сезон.

**ОРТ**
7.00 «Обыкновенное чудо». С. 2.
8.20 Мультфильм «Заколдованный мальчик».
9.00 Новости.
9.15 «Непутевые заметки» Дм.Крылова.
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 Служу России!
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 Провинциальные истории.
12.30 Сериал «Подводная одиссея команды Кусто».
13.25 Смехопанорама.
14.00 Новости .
14.20 Большой театр.
15.05 Клуб путешественников.
15.50 Как-то раз.
16.00 Мультфейерверк.
16.45 «Один на один».
17.15 «Счастливый случай».
18.05 Клуб «Белый попугай».
19.00 Время.
19.40 Х/ф «Леон».
21.50 Футбольная панорама.
22.20 Новости.
22.30 Фильм «Враг внизу».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.30 Мультфильм.
7.50 Спортлото.
8.00 «Мак и Матли».
8.30 Пилигрим.
9.00 Устами младенца.
9.30 Присяга.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Русское лото.
10.55 Приз группы «Савва».
11.00 Человек на земле.
11.30 Книжная лавка.
12.00 Телетеатр. Ю.Казаков. «Арктур — гончий пес». Ч. 2.
12.25 Проще простого.
13.00, 22.35 Вести.
13.20 «Тайна Сахары». С. 4.
14.15 Ничего, кроме...
14.30 В мире животных.
15.00 Караоке по-русски.
15.25 Футбол без границ.
15.55 Репортер.
16.10 Поют драматические артисты.
16.40 «У всех на устах».
17.00 Волшебный мир Диснея.
18.00 «Королева Марго». С. 13.
19.00 Зеркало.
19.55 Погода на завтра.
20.00 Репортаж ни о чем.
20.15 Аншлаг и К.
21.10 «Абзац».
22.05 У Ксюши.
22.50 «Тень». Х/ф.

**Санкт-Петербург**
9.25 Папа, мама и я — спортивная семья.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ.
10.10 Овертайм.
10.40 «Под небом Берлина». Т/ф.
11.10 Старое танго.
11.40 Весь этот цирк.
12.10 «Петр Первый». С. 2.
13.45 Мультфильм.
14.10 Еще одна Россия.
15.10 Дирижирует Георг Шолти. 6-я симфония П.И.Чайковского.
16.10 Спортивная программа.
16.35 Детское ТВ: «Кашамалаша», «Золотой ключ», «Бросайка».
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Сокровища Петербурга.
19.25 «Человек, которого не было». Х/ф.
21.10 Ноу смокинг.
21.55 Международное обозрение.
22.25 «Софья Ковалевская». С. 3.

**IV канал, НТВ**
7.00 Х/ф «Чудесные годы».
7.50 Сериал «Моисей — законодатель».
8.40 Латиномания.
9.00, 13.00 Сегодня.
9.15 Х/ф «Зеркало для героя».
11.30 Лучшие цирки мира. «Арена клоунов» .
12.45 Русский альбом. Группа «Дюна».
13.15 Мини-сериал «Современный граф Монте-Кристо».
14.05 Намедни.
14.45 Куклы.
15.05 «Лишняя». Спект.
16.25 Забытые имена.
17.00 «Горец» .
17.30 Телеигра «Сто к одному».
18.00 Сегодня.
18.30 «Человек в маске».
19.10 «Исчезнувшие цивилизации».
20.00 Итоги.
21.10 Х/ф «Рыжая Соня».
22.50 Лучшие шоу и варьете мира. «Бразильское ревю «Обаоба-93».

*Конкурс*

# Вынікі трэцяга тура

**Сёння мы друкуем вынікі трэцяга, апошняга тура нашага конкурсу «Пра ўсё на свеце».**

Цікаўным чытачам давялося чакаць публікацыі правільных адказаў крыху даўжэй, чым звычайна. Але ўдзельнікі конкурсу прасілі нас працягнуць тэрмін, і мы не маглі не пайсці насустрач. Што ж, трэці тур — самы адказны, і на пошукі патрэбнай інфармацыі давялося патрацiць больш часу.

Усяго ў трэцім туры ўзялі ўдзел 109 нашых чытачоў. На ўсе 5 пытанняў правільна і поўна адказалі 4 удзельнікі. Гэта **Уладзімір Булаўка** *(Мінск)*, **Вольга Долгіна** *(Магілёў)*, **Наталля Маркевіч** *(Гомель)* і **Юрась Голубеў** *(Наваполацк)*.

18 балаў атрымаў мінчанін **Аляксандр Куляшоў**, які не зусім дакладна, як і некаторыя іншыя ўдзельнікі, адказаў на трэцяе пытанне вікторыны. На 4 пытанні далі правільны адказ 14 чытачоў. Сярод іх першымі былі **Марына Баранава** *(Гомель)*, **Сяргей Амельяновіч** *(Белаазёрск)*, **Уладзімір Скрабатун** *(Глыбокае)*. Самым складаным пытаннем тура аказалася пятае: толькі 12 чалавек змаглі дакладна закончыць фразу Сакрата. Затое ўсе ўдзельнікі ў чацвёртым пытанні правільна назвалі падзею — адкрыццё метрапалітэна, праўда, некаторыя памыліліся з датай.

**Мікола ЛІПСКІ**

1. У сярэдзіне мінулага стагоддзя швейцарскі парламент прыняў закон, які забараняе службу ў замежных арміях. Але ў гэтым законе зроблена адзінае выключэнне, якое дзейнічае і цяпер. Дзе ў замежжы могуць служыць грамадзяне Швейцарыі?

**У гвардыі Ватыкана.**

2. Вышыня 55 см, маса (са змесцівам) 900 г, працяглaсць карыстання не менш за 10 хвілін, матэрыялы — алюмініевы сплаў і нержавейная сталь. Выраблена каля 5.000 штук. Выкарыстоўвўся ў 1980 годзе. Што гэта за прадмет?

**Эстафетны факел для пераносу алімпійскага агню на Алімпіяду-80 у Маскве.**

3. Трупны каньён, цясніна Ста чарцей, цясніна Мерцвякоў, гарлавіна Самагубцаў, калодзеж Атруты, Гіблы распадак. Дзе на зямлі знаходзяцца гэтыя жудасныя мясціны?

**У даліне Смерці ў ЗША.**

4. У Лондане гэтая падзея адбылася ў 1863 годзе, у Парыжы — у 1900, у Маскве — 1935, у Кіеве — 1960. А калі — у Мінску? (Укажыце год і падзею.)

**30 чэрвеня 1994 года ў Мінску пачаў працаваць метрапалітэн.**

5. Закончыце фразу знакамітага грэцкага філосафа Сакрата: «Я ведаю, што нічога не ведаю, але...

**...іншыя не ведаюць і гэтага.»**

*У адным з наступных нумароў мы падвядзём канчатковыя вынікі ўсяго конкурсу, назавём пераможцаў і абвесцім прызы. Так што — маральна рыхтуйцеся.*

АФІША

# «Абарані, анёл, маю матулю»

### ДЗЕНЬ МАЦІ

Яшчэ адно, апрача 8 Сакавіка, жаночае свята Беларусі — Дзень маці **14** кастрычніка. Да яго прымеркаванае дзіцячае свята «Дзень бабулі», якое пройдзе **12** кастрычніка ў Гарадскім палацы дзяцей і моладзі. А **14** кастрычніка а 18-й гадзіне ў памяшканні Тэатра музычнай камедыі пачнецца тэатралізаваная святочная дзея «Абарані, анёл, маю матулю».

### ГОСЦІ МІНСКА

На наступным тыдні да нас завітаюць маскоўскія драматычныя акцёры, якія даўно заваявалі любоў гледачоў. **12** кастрычніка на сцэне Дома афіцэраў тэатр «Современник» прадстаўляюць Лія Ахеджакава і Міхаіл Жыганаў з імпрэзай «Персідскі бэз». Квіткі каштуюць 100—200 тыс. руб. **14** кастрычніка, таксама ў Доме афіцэраў, у вадэвілі «Акцёры між сабою» на музыку Сяргея Нікіціна вы можаце пабачыць славутую Ірыну Мураўёву. Кошт квіткоў — ад 70 да 150 тысяч. Пачатак абодвух спектакляў а 19-й гадзіне.

### ТЭАТРЫ

Оперны тэатр прадстаўляе, акрамя дзвюх опер — «Вяселле Фігара» (**13** кастрычніка) і «Сялянскі гонар» (**15** кастрычніка) — таксама «Рэквіем» Вэрдзі (**12** кастрычніка) і канцэрт рускага раманса, які адбудзецца **17** кастрычніка.

У тэатры імя Янкі Купалы **11** і **12** кастрычніка пройдзе прэм'ера мінулага сезона — «Ромул Вялікі». **13** кастрычніка — «Умовы дыктуе жанчына», **16** — «Нежанаты мнагажэнец», **17** — «Памінальная малітва», **18** — «Ідылія». Купалаўцы працуюць таксама на малой сцэне — **12** кастрычніка вы можаце паглядзець «Смех лангусты», а **14** — «Лэдзі Нявіннасць».

На вялікай сцэне Рускага тэатра **13** кастрычніка «Хрыстос і Антыхрыст», **16** — «Адъютант-ша Его Превосходительства», **17** — «Мадам, месье і...» Яшчэ больш цікавы рэпертуар Малой сцэны: **15** кастрычніка — «Хто там?», **16** — «Вячэра», **17** — «Цяжкія людзі, або Жаніх з Ерусаліма». Пачатак спектакляў на малой сцэне ў 18:30. У нядзелю, **13** кастрычніка Рускі тэатр запрашае дзяцей на спектакль «Дрэўляны рыцар» (пачатак аб 11-й гадзіне).

Тэатр-студыя кінаакцёра **13** кастрычніка запрашае на імпрэзу «Каханне смешнага чалавека» паводле Дастаеўскага. Гэтая пастаноўка пройдзе ў рамках ІІ-га Міжнароднага фестывалю монаспектакляў. У галоўнай ролі А.Бубашкін, рэжысёр — М.Князеў. На сцэне тэатра таксама пройдуць «Айсэдора. Танец кахання» (**11** і **12** кастрычніка), «Нябачны сябар» (**15** і **16**) і «Карнавал у Венецыі» (**17**).

Драматычны тэатр «Дзе-Я?» (вул.Л.Чайкінай, 16, раён аўтазавода), які пачаў сезон прэм'ерай «Круці...» паводле твораў Ф.Аляхновіча, на наступным тыдні таксама пакажа імпрэзу па ягоных п'есах — «Здань» (**11** і **12** кастрычніка). А затым у тэатры зноў прэм'ера — **15**, **16** і **17** кастрычніка «Дзе-Я?» прадстаўляе «Жаніцьбу» Гогаля.

На прэм'еру запрашае **12** і **13** кастрычніка Маладзёжны тэатр (вул.Даўмана, 1). Тут паставілі «Хітрыкі Скапэна» бессмяротнага Мальера. Рэжысёр Андрэ Фарнье (Францыя).

Тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі «Вольная сцэна» таксама святкуе прэм'еру. Новая імпрэза называецца «Заложніца кахання», і ўбачыць яе можна **12** кастрычніка.

### МУЗЫКА

Канцэртная зала філармоніі запрашае на шэраг разнастайных музычных вечароў. **11** кастрычніка Дзяржаўны сімфанічны аркестр РБ выканае канцэрт Ё.С.Баха для дзвюх скрыпак з аркестрам і сімфонію № 5 А.Брукнэра. **12** кастрычніка на галоўнай канцэртнай пляцоўцы краіны выступяць юныя лаўрэаты міжнародных конкурсаў, навучэнцы Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. **13** кастрычніка — адметная падзея для тых, хто прыхільна ставіцца да Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ пад кіраўніцтвам М.Фінберга. Аркестр ладзіць бенефіс бас-гітарыста і аранжыроўшчыка Ігара Сацэвіча. **14** кастрычніка ў Канцэртнай зале зноў класіка — у выкананні Сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі прагучаць 4-я сімфонія Чайкоўскага і 3-ці канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Бетховена. Саліст — Ігар Алоўнікаў. **15** кастрычніка Камерны аркестр запрашае паслухаць музыку Баха, Гендэля і іншых класікаў, а **17** кастрычніка пройдзе міжнародная акцыя «Свабода плюс дзеці» з удзелам маленькіх выканаўцаў з Мінска і Мастхольта (Германія).

Зала камернай музыкі **11** і **12** кастрычніка прадстаўляе арганістку Тацццяну Арлову (г.Белая Царква). **14** кастрычніка тут будуць выконвацца «Песні любові» І.Брамса — цыкл твораў для фартэпіяна і вакальнага квартэта, прычым афіша абяцае сапраўды бліскучы склад выканаўцаў. **16** кастрычніка госці з Расіі Г.Мацюкова і Д.Зубаў будуць выконваць старадаўнюю музыку для флейты і клавесіна.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

## «Лукашызм» зліквідавалі

**Тры тыдні надпіс «Лукашызм — фашызм» прыцягваў увагу ў цэнтры Гродна ў вітрыне былога «Камсамольскага праэктара».**

Ліквідацыя гэтага надпісу стала адной з першых справаў новага мэра А.Пашкевіча.

Б.Б.

## Без сцяга

**У райцэнтры Мядзел Мінскай вобласці ў ноч з 3 на 4 кастрычніка невядомы зняў лукашэнкаўскі сцяг з будынка сельгасупраўлення і на яго месца павесіў бел-чырвона-белы штандар.**

Беларускі нацыянальны сцяг лунаў над Мядзелам, пакуль яго не заўважылі мясцовыя кіраўнікі. Сцяг, вядома, знялі, але яшчэ адзін чырвона-зялёны чапляць не сталі. Так што сёння Мядзел без сцяга.

Валодзя ЯНЧУК

## Ад памежнікаў не схаваешся

**Падчас аперацыі «Рубеж-96», якую праводзіць з 20 верасня Упраўленне памежных войскаў, затрымана 180 парушальнікаў мяжы і канфіскавана кантрабанды на 500 млн. рублёў.**

Парушальнікі ідуць на розныя хітрыкі, каб незаконна прасачыцца на заходні бераг Буга альбо правезці тавар. Напрыклад, нядаўна Брэсцкі памежны нарад на кантрольным пасту «Варшаўскі мост» затрымаў аўтобус *Neoplan*, які належыць адной грэцкай турфірме. У яго багажным аддзяленні былі знойдзеныя тайнікі. У адным з іх ляжала некалькі тысяч кантрабандных долараў.

Дарэчы, словы *Neoplan* і Грэцыя ўжо становяцца падазронным спалучэннем на мяжы. Некалькі месяцаў таму на пропускным пункце Брузгі каля Гродна — з аўтобуса *Neoplan* з нумарамі Грэцыі — высадзілі 16 грамадзянаў Шры-Ланкі. Яны таксама нелегальна ехалі на Захад у патаемных адсеках аўтобуса.

Валодзя ЯНЧУК

## Бензінавае мора каля школы

**У мінулую суботу на чыгуначным перагоне Андронавічы, што ў прыгарадзе Віцебска, адбылася аварыя.**

Падчас манеўраў ад грузавога цягніка нечакана адчапіліся і пакаціліся ўніз шэсць цыстэрнаў з бензінам. Чыгуначнікі прыкладалі ўсе намаганні — кідалі на рэйкі бярвенні, падкладвалі «башмакі», але без поспеху. Адзін рабочы, спрабуючы выратаваць сітуацыю, пераvёў чыгуначную стрэлку, таму цыстэрны з небяспечным грузам не пакаціліся ў цэнтр горада, а паехалі ў тупік, дзе і перакуліліся. На шчасце, выбуху не адбылося. На зямлю вылілася каля 250 тон бензіну АІ-93, які належаў расійскай нафтавай кампаніі «ЛУКойл».

Аварыя здарылася ў 100 метрах ад Віцебскай СШ № 13.

Фёдар ПРЫГОЖЫ

## Аматар курацiны

**Днямі адзін спрытны слесар Баранавіцкай птушкафабрыкі спрабаваў вынесці з прадпрыемства ажно 160 курэй.**

Але небараку не пашанцавала. Цягнучы мяхі з курамі, ён ужо выходзіў праз прахадную — і тут яго перанаў сам дырэктар птушкафабрыкі. Бухгалтэрыя падлічыла, што куры тыя каштавалі 6,8 млн. рублёў, або 42.500 руб. штука.

Анатоль МІРСКІ

## Хто крадзе? Крадуць ахоўнікі

**Днямі 5 ахоўнікаў Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода намагаліся тайна вывезці з прадпрыемства 900 літраў бензіну.**

Аперацыя не ўдалася: проста на месцы злачынства іх затрымала міліцыя.

Мікалай ГРЫПІЧ

## Замест заапарка

**Калі вашае дзіця раптам спытаецца: «Тата, а чаму беларускія грошы называюць «зайцамі»?», — а вы не можаце яе след раструмачыць, звазіце яго ў Ліду.**

Своеасаблівы музей грошай стварылі дасціпныя работнікі Лідскай ПМК Гродзенскага аграпрамбуда. У сваёй канцылярыі яны цэлую сцяну 4х2,5 метраў замест шпалераў заклеілі беларускімі грашыма. Тут і зайцы, і бабры, і ваўкі, і іншыя звяры, якія цяпер маюць каштоўнасць толькі ў лесе, але не на паперы. Гэтую сваю «заалагічную галерэю» работнікі ПМК вельмі цэняць, бо на яе стварэнне затрацілі амаль год.

Алесь КАСТРАВІЦКІ

СПОРТ

# Зборная, якая не ўмее перамагаць

**ФУТБОЛ: ЯШЧЭ АДЗІН ПРАКОЛ**

Толькі так можна ацаніць нічыйны вынік адборачнага матча чэмпіянату свету паміж камандамі Беларусі і Латвіі. Гульня, што адбылася на мінскім стадыёне «Дынама» ў мінулую сераду, завяршылася з лікам 1:1.

Пасля правальнага матча ў Таліне, дзе беларусы саступілі вядомым аўтсайдэрам групы — эстонцам, гаспадары поля былі настроеныя толькі на перамогу. На гэты раз у дзеяннях нашых футбалістаў не было вяласці і абыякавасці. Але празмернае жаданне выйграць не было падмацаванае ўменнем. Наадварот, пачатак гульні паказаў, што госці поўнасцю кантралююць сітуацыю на полі. Ужо на 12-й хвіліне 20-гадовы форвард латышоў Мар'ян Пахар небяспечна б'е па варотах Шанталосава, але мяч праляятае побач са штангай. А праз тры мінуты пярэдні абаронца гасцей Міхаіл Зямлінскі з пазіцыі правага інсайда прыкладна з 17 метраў моцна прабівае ў бліжэйшую «дзевятку». Наш галкіпер аказаўся не гатовы да гэтага і быў здзіўлены не менш за заўзятараў — 0:1. Толькі пасля прапушчанага гола гульня беларусаў набыла некаторую вастрыню. У цэлым жа першы тайм не прынёс гаспадарам ні маральных, ні матэрыяльных дывідэндаў.

У другім тайме характар гульні змяніўся. Беларусы кінуліся наперад на злом галавы. Але ў іх дзеяннях было замнога мітуслівасці. Праходы Арлоўскага па левым фланзе канчаліся аднолькавымі навесамі ў штрафную, дзе высокія ростам абаронцы гасцей без праблем разраджалі абстаноўку. Прабіцца праз цэнтр гаспадарам, якія не вылучаліся, акрамя Уладзіміра Макоўскага, індывідуальным майстэрствам, таксама не ўдавалася. Затое латышы некалькі разоў праводзілі вельмі вострыя контратакі. Асабліва прыгожай была трохходоўка Астаф'еў (гэты паўабаронца «Аўстрыі» выдзяляўся ў складзе гасцей) — Пахар — Булдэрс, якую апошні завяршыў моцным ударам у ніжні кут варотаў, але Шанталосаў у гэты раз згуляў выдатна.

Чарговая серыя атак гаспадароў поля нарэшце прывяла да поспеху. Пасля хуткай распасоўкі ў штрафной гаспадароў утварылася шчыліна, куды накіраваўся Макоўскі. Ягоны ўдар метраў з 12 пад перакладзіну быў неадхільны. Праз некалькі хвілін 19-гадовы галеадор робіць кінжальны праход злева і б'е, знаходзячыся пад вострым кутом да варотаў, але Караваеў у кідку парыруе ўдар. І ўжо перад самым фінальным свісткам Пахар, намучыўшы беларускіх абаронцаў, абгырвае двух, урываецца ў штрафную, яго збіваюць, але грузінскі арбітр высакародна пашкадаваў гаспадароў.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі журналісты даймалі галоўнага трэнера зборнай Беларусі Сяргея Бароўскага пытаннямі аб ягоных адстаўцы. Сяргей Уладзіміравіч быў непахісны: «Не дачакаецеся!». Праўда, ён заўважыў, што яго кантракт канчаецца 31 снежня і гэтае пытанне будзе вырашаць кіраўніцтва Беларускай федэрацыі футбола. Настаўнік гасцей Яніс Гіліс сказаў, што пасля набыцця незалежнасці ў Латвіі і Эстоніі не гублялі часу дарэмна, актыўна выкарыстоўвалі досвед міжнародных футбольных знасінаў і дамагліся пэўных вынікаў. Гіліс падкрэсліў, што ў гульні за зборную праяўляецца сапраўдны патрыятызм. Госць, ацэньваючы ўзровень беларускага футбола, быў бязлітасны, але справядлівы: «Год дзесяць таму ў Беларусі быў добры футбол, але пасля распаду СССР вы не зарыентаваліся і страцілі тое, што мелі».

Безумоўна, можна замяніць Бароўскага, але гэта не памяняе ўзроўню нашага футбола. Патрабуюцца карэнныя перамены ў кіраўніцтве Беларускай федэрацыі футболу, прэзідэнт якой Яўген Шунтаў заклапочаны толькі захаваннем свайго тытула. Няія рэформы ні ён, ні ягонае атачэнне праводзіць не здольныя. А без пераменаў будучыні ў беларускага футбола няма.

У Таліне адбылася драма. Шатланцы папрасілі інспектара *UEFA* перанесці пачатак матча на больш ранні час, што і было зроблена. Гаспадары ж пра гэта загадкавым чынам не даведаліся і прыбылі на стадыён пасля таго, як ім залічылі паразу за няяўку — 0:3. Эстонцы падалі пратэст. А ў Стакгольме лідэр групы зборная Швецыі нечакана ўступіла камандзе Аўстрыі — 0:1. Пасля гэтага становішча ў чацвёртай групе наступнае: **1.** *Шатландыя — 7* ачкоў пасля трох гульняў, **2.** *Швецыя — 6(3)*, **3.** *Аўстрыя — 4(2)*, **4.** *Беларусь — 4(4)*, **5.** *Эстонія — 3(3)*, **6.** *Латвія — 1(3)*.

Вынікі некаторых матчаў у іншых адборачных групах: *Ізраіль — Расія — 1:1, Арменія — Германія — 1:5, Літва — Ліхтэнштэйн — 2:1, Партугалія — Албанія — 3:0, Люксембург — Балгарыя — 1:2, Боснія і Герцагавіна — Харватыя — 1:4* (матч адбыўся на нейтральным полі ў італьянскай Балоньі), *Італія — Грузія — 1:0, Англія — Польшча — 2:1, Ірландыя — Македонія — 3:0, Ісландыя — Румынія — 0:4, Данія — Грэцыя — 2:1, Сан-Марына — Бельгія — 0:3, Нарвегія — Венгрыя — 3:0.*

Сямён ПЛОЦ

## Арсенал у падвале

**Жыхары аднаго шматпавярховага дома ў Лідзе нават і не здагадваліся, што робіцца пад будынкам.**

А было вось што. Іхні 35-гадовы сусед у падвале зрабіў майстэрню, дзе саматужным спосабам вырабляў выбуховыя прыстасаванні і рамантаваў стралковую зброю. Падчас вобыску міліцыя канфіскавала ў «народнага ўмельца» цэлы арсенал: снарады, міны, траціл, аўтамат ППШ, пісталеты «маўзер» і «вальтэр». Дарэчы, у гэтага лідскага майстра даўняя і моцная любоў да зброі — у свой час за гэта ён ужо адсядзеў за кратамі 3 гады.

Алесь КАСТРАВІЦКІ

## Зачынілі «манапольку»

**Жыхарка Брэста ў сваім гаражы, што на вул.Інтэрнацыянальнай, адчыніла падпольную краму па продажы польскіх моцных напояў.**

Незаконны бізнес спыніла міліцыя. У гандляркі канфіскавана 25 скрынаў гарэлкі *Wyborowa*, 5 скрынаў спірту ў літровых бутэльках і 200 літраў разліўнога спірту польскай вытворчасці.

Анатоль МІРСКІ

У СВЕЦЕ

## О піва!

**5 мільёнаў 100 тысяч літраў — столькі піва выпілі ў Мюнхене ўдзельнікі восеньскага карнавалу.**

Традыцыйнае нямецкае свята піва *Oktoberfest* скончылася ў мінулую нядзелю. За 16 дзён у карнавале ўзялі ўдзел амаль 7 мільёнаў чалавек.

## Камп'ютэрная дыверсія

**Урад Кітая забараніў продаж кітайскай версіі камп'ютэрнай праграмы *Windows'95*.**

Здавалася б, што агульнага могуць мець камп'ютэр і палітыка? Аднак прычына забароны — менавіта палітычная. Рэч у тым, што на кітайскую мову *Windows'95* перакладалі праграмісты з Тайваня. Яны заклалі ў праграму своеасаблівыя сюрпрызы: пры націсканні пэўных клавішаў на экране з'яўляюцца лозунгі тыпу «Хай жыве незалежны Тайвань» або «Далоў камуністычных бандытаў». Кітайская версія праграмы прадаецца з сакавіка, але толькі цяпер урадавыя чыноўнікі натрапілі на палітычную крамолу.

## Як пахне Macarena?

**Суперхіт іспанскага дуэта *Los del Rio* атрымлівае нечаканы працяг.**

Прэзентацыю новай парфумы *Macarena* фірма *Gal Ernesto Camino* правядзе заўтра, 12 кастрычніка, у Маямі. Злучаныя Штаты будуць першай краінай, дзе можна будзе наваструць нос на новы водар. Яно, зрэшты, і не дзіва: *Macarena* не толькі стала гімнам амерыканскай бейсбольнай каманды, але нават гучала на сёлетняй канферэнцыі Дэмакратычнай партыі ЗША, дзе Біла Клінтана выбралі кандыдатам у прэзідэнты.

## Урокі сексу

**Міністэрства асветы Бразіліі пастанавіла, што з наступнага года ўсе школьнікі, якія дасягнулі 7 гадоў, павінны наведваць урокі «сексуальнага выхавання».**

У афіцыйным дакуменце паведамляецца, што такая педагагічная навацыя мае на мэце прафілактыку СНІДу, а таксама павінна *«падрыхтаваць маладых людзей да атрымання прыемнасці ад фізічнага кантакту двух людзей».* Аднак эксперты адзначаюць яшчэ адзін аспект: у Бразіліі вельмі высокі натуральны прырост насельніцтва — амаль 2% у год, і гэта стварае шмат вострых сацыяльных і эканамічных праблем у вялікай, але беднай лацінаамерыканскай краіне. Урад спадзяецца, што «сексуальнае выхаванне» пашырыць папулярнасць прэзерватываў і супрацьзачаткавых пілюляў.

*Паводле паведамленняў агенцтваў Associated Press, Reuter, PAP, France Press, матэрыялаў замежнай прэсы падрыхтавала*

Магдалена НЕПАКАЙ

## Марыхуану — у печ

**Урад Ірландыі збіраецца аб'явіць міжнародны конкурс на лепшы праект цеплаэнергетычнай станцыі, палівам для якой будуць... каноплі.**

Як паведамляе *Times*, даследы, праведзеныя ірландскімі навукоўцамі, даюць усе падставы выкарыстоўваць каноплі як эфектыўнае паліва. На эксперыментальных участках вырошчваліся індыйскія каноплі — тыя самыя, з якіх атрымліваюць гашыш і марыхуану. Аднак шляхам селекцыі выведзеныя сарты, што практычна не маюць у сабе наркатычных рэчываў.

У новага паліва ёсць шэраг несумненных вартасцей: каноплі хутка растуць (пасеяныя ў красавіку, выспяваюць у верасні), добра сохнуць, даюць шмат цяпла. Акрамя таго, ірландскія фермеры знойдуць сабе сталы занятак у сітуацыі, калі попыт на сельскагаспадарчую прадукцыю зніжаецца.

## Лекі ад раку растуць у Індыі

**Група нямецкіх медыкаў дасягнула нечакана добрых паказчыкаў у эксперыментальным лячэнні злаякасных пухлін мозгу.**

25 пацыентаў атрымлівалі прэпарат, выдзелены з кары дрэва *Boswellia serrata*, якое расце ў Індыі. У выніку ўжо на другі дзень пасля пачатку лячэння ў хворых значна зменшыўся боль галавы і парушэнні цэнтральнай нервовай дзейнасці. А праз сем дзён у абсалютнай большасці пацыентаў было зафіксаванае рэзкае змяншэнне пухліны. Спецыялісты лічаць, што новыя лекі могуць стаць надзейным сродкам пасля анкалагічных аперацый на мозгу, а таксама дадуць надзею на жыццё тым, каму зрабіць аперацыю па пэўных прычынах нельга.

Спадарства! Інфляцыя паела ўвесь корм — прыйдзецца есці адзін аднога. Такім чынам, з каго пачнем?



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод — 49.270)
Нумар падпісаны ў друк 10.10.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2620